* * *

*Беларусь наша, нібы мембрана –*
*Рэкі-струны гудуць срэбным звонам.*
*І ляціць гэты плач несціхана*
*Праз стагоддзі чарнобыльскім стогнам...*

* * *

*Ад адзіноты лечыць талака,*
*Ад раздражнення гуртам – адзінота.*
*Жыццё людское плынню, як рака,*
*Да стромы лашчыцца і да балота...*

* * *

*Блакіт азёр і доўгіх стужак рэк,*
*Нішто за іншае, як небасхіла вочы –*
*У люстрах вод убачыў чалавек,*
*Праз промні сонейка і аксаміты ночы.*

* * *

*Атэісты верацъ шчыра,*
*Што ад малпы родам.*
*Мо і так... Самасатыра*
*Паважаецца народам!..*

* * *

*Ад бязглуздасці зводзіць аскома –*
*Здольных выслухаць побач няма...*
*Свае мары губляем свядома.*
*На душы, нат улетку, зіма...*

* * *

*Бяспрэчных ісцінаў няма,*
*Акрамя той, што мы існуем.*
*І, што звышрозум усім кіруе…*
*І, што ўсё гэта нездарма...*

* * *

*Будучыня – гэта меркаванне,*
*Сённяшнім жыцём ахвяраванне.*
*Што наканавана – тое будзе ...*
*Як ні мяркуй , як ні плануй ...*

* * *

*Будзе так, як заўсёды,*
*Будзе так, як заўжды,*
*Будзе хлеб смачней мёду,*
*Гора – лепш за бяды...*

* * *

*Варушыцца пачуцце ля душы,*
*Вачэй крыніцы поўняцца мігценнем.*
*Каб росы слёз не змерзлі ў ледзяшы –*
*Падтрымлівай цяпельца летуценнем…*

* * *

*Вясна!!! Уздым душы...Спакуса...*
*Куды ні глянь, што ні крані...*
*Уваскрашэнне без прымусу*
*Жыцця, праз продкаў карані!*

* * *

*Вясной, як заўсёды, заплачуць бярозы,*
*У шклянкі нальюць іх крыштальныя слёзы,*
*Ці памяць-гаркота?.. Ці слодыч вясны?..*
*– Чарнобыля рэха, кактэйль ледзяны...*

* * *

*Да разуму мана не ліпне,*
*Хлусня абыдзе інтэлект,*
*І путы зблытаўшы ўшчэнт,*
*Сама стрыножыцца і знікне..*

* * *

Дабро заўсёды ёсць дабро –
Яно жывое.
Не золата, не серабро...
Яно святое.

* * *

Душэўную гармонію не купіш,
Не знойдзеш выпадкова, не скрадзеш…
Калі яе не маеш, то не згубіш...
А з ёю, нат з-пад бруку прарасцеш!

* * *

Жыву сярод людзей. Усе яны імкнуцца
Жыць добра. Дзесяць запаведзяў помняць.
Але, як крэмнем быць і гнуцца?..
Як бітым быць і у адказ не выцяць?

* * *

*Жыццё – імгненне, больш нічога.*
*Яно нам дадзена ад Бога.*
*І след халодны ці гарачы*
*Пакіне кожны на Зямлі...*

* * *

*Залацістым золкам усход высцілае*
*Ранішняму сонейку запаветны шлях...*
*Ужыванай шаблі, бляскам працінае*
*Заход крыважэрны ў вечаровы час.*

* * *

*Запраганне заўсёды лагоднае,*
*Вершнік цнотна-ласкава цугляе…*
*У аброці ж – надвор'е спякотнае,*
*Нат мароз астываць не спрыяе.*

* * *

*Зямля прыцягвае ўсё.*
*І нас, таксама, далучае.*
*Мы пэўны час нібы дзіцё,*
*Але, жыццё як сон мінае…*

* * *

*І добрае, і дрэннае – вынік.*
*І добрае, і дрэннае – помнік.*
*Вынік – жыццёвы плён,*
*Услаўленне, ці праклён?..*

* * *

*Ісці да запаветнай мэты?*
*Сцяжынай вузкай? Бальшаком?*
*Наўкол, як цені, сілуэты –*
*Хто наўцянькі... Хто напралом...*

* * *

*Каб вынік атрымаць –*
*Не трэба сумнявацца,*
*Чым ў роспачы драмаць...*
*Лепш творча завіхацца.*

* * *

*Калі няма чаго казаць – маўчы.*
*Калі карціць казаць – маўчы, таксама.*
*Уважліва за думкамі сачы*
*І трапна адкажы, калі ты апытаны...*

* * *

*Калі Францішак Багушэвіч*
*Да роднай мовы далучаў,*
*Ён веданне суседніх веліч –*
*Невыпадкова азначаў...*

* * *

*Капыт, як кіпцюр, не завойстрыш*
*І кіпцюр, як капыт, не не затупіш.*
*Ад травы траваядны залежны.*
*Ад яго, адпаведна, – драпежны…*

* * *

*Каханне – гэта стан душы,*
*Калі надвор’е вам не шкодзіць…*
*І цэнтр сусвета, нат у глушы…*
*І шчасце з панталыку зводзіць!..*

* * *

*Кожны дзень паасобку – цяжкі,*
*А у нізцы жыццёвай – цудоўны...*
*Плён жыццёвы будзе важкі,*
*Калі справы рабіць паслядоўна.*

* * *

*Колькі асоб – столькі й сусветаў.*
*Яны арбітамі аднойчы сутыкаюцца –*
*Агульнасць інтарэсаў, пачуцця, імпэтаў*
*Сваёй наканаванасцю здзяйсняюцца...*

* * *

*Крывадушнасць, мана і хлусня*
*Жывуць ў асяроддзі сумлення...*
*Сорам, шчырасць – душы сумятня,*
*У атмасферы нуды і глумлення...*

* * *

*Летуцець, чакаючы, што жораў*
*З'явіцца, пакінуўшы аблокі,*
*Неба бездань і палёт высокі –*
*Век працерці, выстыць і сканаць...*

* * *

*Мастак натхнёна, як набытак,*
*На палатне зрабіў адбітак.*
*Але, канец – заўжды пачатак,*
*Натхнення новага глыток…*

* * *

*Натхненне з белым палатном*
*Зрабіла цуд – гарыць вясёлка.*
*І травы, кветкі, карані…*
*Усё зіхаціць у промнях золка.*

* * *

*Мутарна жвавам марыць,*
*Марна ўзнёсламу блазіць –*
*Кожны сваё заўважыць,*
*Зробіць свае лепш за іншых...*

* * *

*Можна набрацца ведаў,*
*Іх далучыўшы да розуму.*
*Але, усё гэта ў выніку,*
*Будзе належыць – кворуму…*

* * *

*Мы сёння ёсць, а заўтра – невядома...*
*Ці будзем мы?.. Ці вернемся дадому?..*
*Таму не адкладай магчымага на потым –*
*Хай пойдзе на карысць душы твоей уздым!*

* * *

*Наш лёс журботны, партызанскі,*
*Маўклівы, ціхі, гаспадарскі –*
*На бойнішчы араць ды сеяць,*
*Каб зноў маркотна летуценіць...*

* * *

*Наша ўсё: палі і пашы,*
*Рэкі, неба... Дух пяе!*
*Хоць багацці тыя нашы,*
*Мы камусьці не свае...*

* * *

*Не адрозніш адразу, што лепш?..*
*І, што горш не адрозніш знянацку.*
*Не спяшайся, няхай гэты верш*
*Ахалодзіць кагось па-мастацку…*

* * *

*Не важна, як казаць, а важна што.*
*Прыгожая мана – прэлюдыя гіпноза...*
*Адвісла сківіца... І ты ўжо ніхто...*
*Ты "зомбі" – эвалюцыі пагроза.*

* * *

*Не насіце ў крыніцу вадзіцу*
*І дабра ад дабра не шукайце…*
*Накорміце зімою сініцу.*
*Жураўля, пад свой дах, не цягайце!*

* * *

*Не разарваць прыроды пута,*
*Куды не трэба, не хадзі...*
*Ты не ўладар яе – пакута,*
*Абы чаго не гарадзі!*

* * *

*Не трэба сумаваць. У кожнага ёсць нехта...*
*Ёсць, нават калі побач цішыня.*
*Заўсёды летуценім мы аб лепшым,*
*Але адна ў кахання вышыня...*

* * *

*Недасягальнасць мэты прадказальна,*
*І згуба часу ўжо недаравальна.*
*Натхняе, вабіць і карціць...*
*Задуму ўраз ажыццявіць.*

* * *

*Па-воўчы выць з ваўкамі ў зграі!..*
*Бляяць баранам у атары!..*
*Не зблытаць толькі б, што ў зграі,*
*Бляяць не трэба – трэба выць...*

* * *

*Па кропельцы зліваюцца патокі,*
*Па каліўцу складаюцца стагі,*
*Па зернейку збіраюцца хлябы,*
*Па літарцы з'яўляюцца паэты...*

* * *

*Па кропельцы разумныя шчыруюць,*
*І кропель тых хапае на ўсіх .*
*Яны нябачна душамі кіруюць,*
*І крок яднаючы, і ўздых...*

* * *

*Па паэзіі, мройнапрывольнай рацэ,*
*Плыты-строфы плывуць, праплываюць...*
*Той, набрак і на дно...Той, струхнеў у асацэ...*
*Звонкі – Вершам праз час называюць!*

* * *

*Палёта стан адчуць магчыма*
*У каханні, мроях -летуценнях,*
*Калі здзіўляе свет айчына,*
*У сваіх уздымах і падзеннях...*

* * *

*Памежнікі між продкаў і нашчадкаў,*
*Мы час не лічым і нататкаў*
*Мінуўшчыны сівой не вучым…*
*Што нашай змене мы даручым ?*

* * *

*Перад самім сабой пакайся,*
*Сам-насам вызначы дарогу...*
*У шляху да Бога ўсміхайся –*
*Ён дасць каханне ў дапамогу.*

* * *

*Рэальны сэнс на палатне абстрактным...*
*Абстрактны погляд на рэаліі жыцця...*
*Абмежаванасць прывідам фармальным*
*Жадае адкрыцца і набыцца...*

* * *

*Паэтаў шмат, а слоў усім хапае,*
*І двух аднолькавых паэтаў не бывае.*
*Як не бывае падабенства золкаў,*
*У кожнага паэта – свая зорка.*

* * *

*Пахвала расхрысты-балалайкі*
*Бубну надала аўтарытэт.*
*І бубніць акрылены зазнайка –*
*Скрыпку запрашае на дуэт...*

* * *

*Слушная думка дурненькім – абуза,*
*Слушнасць дурноце – маркота, нуда…*
*Дарога кароткая – гіпатэнуза.*
*Глупству ж патрэбна – па крузе хада.*

* * *

*Спелае жыта хіліцца долу.*
*Колас чакае, як збавы, ляза...*
*Стойка трымаецца ён да памолу,*
*Каб не скацілася зерне-сляза...*

* * *

*Рукі не звязаныя, ды не свабодныя.*
*Языкі на месцы – маўчаць гаротныя.*
*Вочы ўсё бачаць, вушы ўсё чуюць.*
*Як нас кідаюць, як нас рабуюць...*

* * *

*Почка трэсне – і лісцік на волю,*
*Зелянінай сваёй уварвецца,*
*Затрапеча за лепшую долю,*
*Абзалоціцца і абарвецца...*

* * *

*Такія розныя – Паэт і Хлебароб,*
*А вынік, як ні дзіўна, у іх адзін,*
*Без добрай песні й хлеб не люб,*
*Без хлеба ж песня, як палын...*

* * *

*Талент цягнецца бляскам да таленту,*
*Чым адлегласць бліжэй, тым ярчэй,*
*Зазіхцяць, нібы промні дыяменту,*
*І становіцца людзям віднеей...*

* * *

*Трымае ўсё надзейна успамін.*
*Гісторыя памылкі не даруе.*
*Падмуркі новыя закладваюць з руін,*
*І мудрасць вечная – на глупстве дэкларуе...*

* * *

*Тысячагоддзі з веку ў век гартуем душы,*
*Адны на поспех, іншыя наспех...*
*Напрыканцы усе кудысьці рушым:*
*Бруд цягне ўніз, а чысціня уверх...*

* * *

*Тых, хто жыццё падараваў, ужо няма,*
*А тых, што будуць жыць, яшчэ няма.*
*А мы жывем і да пары няўцям,*
*Што мы звяно у ланцугу жыццёвым...*

* * *

*Шпакі ў траве цікуюць ежы,*
*Вароны шэрыя – шпакоў…*
*Хістаюцца жыццёвы межы*
*Ад апетытаў ядакоў.*

* * *

*Штогод адліга нам спрыяе,*
*Усё наноснае змывае*
*Ільду забруджанага шкло –*
*Душы сардэчнае цяпло...*

* * *

*Час застаецца, Час бясконцы,*
*Ён не праходзіць, не цячэ.*
*Праходзім мы праз промні сонца*
*І ўжо не вернемся яшчэ...*

* * *

*Хто бавіць Час, а хто палюе…*
*Хто лямантуе… Хто заціх…*
*Час уладарыць. Час кіруе.*
*Час ўсё прасее і усіх.*

* * *

*Шукай і знойдзеш, толькі не спыняйся.*
*Шукай упарта, калі мэта ёсць.*
*На прыкладах няўдачлівых натхняйся.*
*Па прыкладу шчаслíўцаў поўні борць...*

* * *

*Штогод жытнёвыя палеткі*
*Вясной абудзяць галасы.*
*Улетку упрыгожаць кветкі,*
*Увосень – жыта каласы...*

* * *

*Які пагляд – такі і накірунак,*
*У кожнага ёсць свой шляхоў карунак,*
*Прасочыць Час уважліва малюнак,*
*І вызначыць, хто правы, а хто не...*

* * *

*Якое гэта захапленне !*
*Жыцця шчаслівыя імгненні*
*У фарбах, словах перадаць,*
*Сваім імпэтам зараджаць…*

* * *

*Яму – блакітная мара...*
*Ёй – шэрая паўсядзённасць...*
*Такая супрацьлеглая пара,*
*Але шчаслівая – усе зайздросцяць.*

* * *

*Яно, вядома, і цікава*
*У цемры бавіцца рухава*
*Але, такі антаганізм*
*Ушчэнт знішчае рэалізм…*

* * *

*Абагульню хлусню і мітусню,*
*Спакойна раўнавагу адшукаю,*
*Скірую позірк у далечыню*
*І рушу ад бяздоння краю...*

* * *

*Мастацтва мастака – паэзія маўклівая...*
*Паэт – малюе словам міражы...*
*Ім чуюцца мелодыі шчымлівыя,*
*Карцін выставы, кнігаў тыражы...*

* * *

*Пачуцці словамі імкнуцца*
*Сябе ў верш зафіксаваць.*
*А мне, адно і застаецца –*
*Раз-пораз пэндзлі адкідаць...*

* * *

*Дзяцінства, юнацтва і сталасць –*
*Старонкі у кнізе жыцця.*
*Я іх прагарнуў – толькі старасць,*
*Фіранка-мяжа небыцця...*

* * *

*Ёсць душы розныя: і чыстыя, і ў брудзе.*
*Усе, бы матылі, імкнуцца да святла.*
*Не падмані надзею, няхай будзе*
*Наперадзе світанак-немаўля...*

* * *

*Жыву даўно. І пазнаю ўжо золкі,*
*Знаёмыя аблокі, навальніцы...*
*Гаючых успамінаў зёлкі*
*Душой прымаю з іх крыніцы.*

* * *

*Здавалася б, усё ўжо ў нябыце.*
*Аж не, прыходзіць раптам успамін*
*І побач зноў бацькі у дабрабыце,*
*Радня, сябры – я, людзі, не адзін...*

* * *

*Мой смутак – сенняшні набытак,*
*Цяжкі, як колас спелы жыта…*
*Душа, ці знойдзеш мрой прытулак?*
*На супакой – верш і малюнак.*

* * *

*Мой шэпт з затокі каля Сожа*
*Увальецца ў рэквіем Дняпра,*
*Дзе сола Прыпяці – мяжа*
*Між нашым заўтра і учора...*

* * *

*Прага плёну меркаванняў*
*Час сціскае. Ці паспею?*
*У аб‘яднанні намаганняў*
*Убачыць здзейсненай ідэю...*

* * *

*Добра там, дзе нас няма!*
*Не віхурыць там зіма,*
*Увесь час красуе лета…*
*Мо таму, што нас няма?..*

* * *

*Думка-верш адаб’ецца па часе,*
*Пачуццё адгукнецца ў ім рэхам,*
*Зазіхціць, як прамень, у алмазе*
*Ці ўсмешкой, ці грэблівым смехам ...*

* * *

*Вясна раскінула пралескавы дыван.*
*Над ім арганам белыя бярозы.*
*Здаецца, прыпыніўся на прывал*
*Гімн цішыні... – Вясны метамарфозы.*

* * *

*Грамадства, – гэта не народ,*
*Не кантынгент і не нарада.*
*– Бескампрамісны падыход*
*Да грамадзян і да урада...*

* * *

*Жылі да нас і будуць жыць таксама.*
*Жыццё – шчаслівы выпадак. Святкуй!*
*След чалавека... След гіпапатама...*
*Якая розніца? Прыглядзься, памяркуй...*

ЗМЕСТ